# Газета для вас

ІВАЦЭВІЧЫ–БАРАНАВІЧЫ–БЯРОЗА–ПРУЖАНЫ

№ 24(235) 16 — 22 чэрвеня 2000 г. | ГРАМАДСКАЕ НЕЗАЛЕЖНАЕ ВЫДАННЕ, ВЫХОДЗІЦЬ СА СТУДЗЕНЯ 1997 г. | Цана — 50 руб.







*18 ЧЭРВЕНЯ — ДЗЕНЬ МЕДЫЦЫНСКАГА РАБОТНІКА*

## ЗДАРОЎЯ ТЫМ, ХТО НАС ЛЕЧЫЦЬ

Якім бы не быў прагрэс у галіне медыцыны, але яны, медыкі, чуюць папрокі ў свой адрас, асабліва ў правінцыі. Зразумела, галоўнае ў рабоце доктара-прафесіяналізм. Але якім бы прафесіяналам не быў медыцынскі работнік, без неабходных лекаў яго праца зводзіцца да нуля.

Выконваючая абавязкі галоўнага ўрача ўчастковай бальніцы вёскі Лінова (Пружанскі раён) Ларыса Аляксандраўна Каліх не адзін дзесятак гадоў працуе тэрапеўтам, шмат перанесла чужых боляў ратуючы людзей. У апошнія гады яе асабліва непакояць хворыя дзеці, калькасць якіх расце. Дыягназ жудасны — анкалагічныя захворванні, гіпертанія. Бальніца, разлічаная на 25 ложкаў і размешчаная ў старым драўляным будынку, заўжды запоўнена хворымі, больш пацыентамі пенсіённага ўзросту. Таго выбару медыкаментаў, што быў раней, няма. Састарэла абсталяванне. А тром урачам участковай бальніцы (адна з іх у дэкрэтным водпуску) даводзіцца абслугоўваць каля 4,5 тысячы чалавек, з іх больш за 800 — дзяцей. Раз у тры месяцы Л. А. Каліх выязджае на два вясковыя фельчарска-акушэрскія пункты, якія прыпісаны да бальніцы. Ларыса Аляксандраўна яшчэ і педыятр, таму невыпадкова яе непакоіць здароўе падрастаючага пакалення.

— Учора была нядзеля, — кажа жанчына. — Палола калгасныя буракі. Сёння зранку ў бальніцы. Потым прыём хворых у амбулаторыі. А яшчэ выклікі дамоў, прафілактычныя дні. Так і жыццё праходзіць.

У дзень прафесійнага свята пажадаем людзям у белых халатах здароўя і шчасця, большай зарплаты і вернага служэння клятве Гіпакрата (вядома, без праполкі буракоў)!

*Аляксей ГАНЧУК.*
*Пружанскі раён.*



*На здымку: Л. А. Каліх.*

## ЛЕС МЯНЯЕ ГАСПАДАРА

**ПРУЖАНЫ**. Дзяржлесфонд раёна разбагацеў амаль на сем тысяч гектараў лесу. У хуткім часе яму будуць перададзены яшчэ дзевяць тысяч гектараў — цяпер вядуцца замеры і афармленне дакументацыі на перадачу. Калгасы і саўгасы раёна валодаюць 20 тысячамі га лясных угоддзяў і ўсе яны трапяць пад крыло Дзяржлесфонду.

Галоўныя прычыны перадачы лесу новаму гаспадару — адсутнасць належнага кантролю і догляду за ўгоддзямі, самавольныя высечкі, частыя пажары.

Дзяржаўным лягсасам прыбавілася не толькі работы, але і праблем. Патрэбны кадры, з якімі не так усё проста. Можна было б запрасіць на працу каго-небудзь з вясковых жыхароў, але мясцовая ўлада працівіцца. Не перашкодзіла б займець новую тэхніку, аднак на яе няма грошай.

*Алесь САШЫН.*

## Ах, які быў падпалкоўнік!

**БЯРОЗА**. Ваенны камісар раёна падпалкоўнік Вячаслаў Скібінскі амаль паўгода вадзіў за нос афіцэра, які жадаў працаўладкавацца ў ваенкамаце. Нездагадліваму ваеннаслужачаму райваенкам нарэшце сказаў — давай 300 долараў і залічу ў штат. Суіскальнік на атрыманне работы пра гэта паведаміў у праваахоўныя органы.

Супрацоўнікі аддзела па барацьбе з эканамічнай злачыннасцю Бярозаўскага РАУС затрымалі падпалкоўніка. У дачыненні да яго (інкрымінуецца вымагальніцтва і атрыманне хабару ў памеры 300 долараў) узбуджана крымінальная справа.

*Аляксандр ЛАЎРАНЮК.*

## Святая Троица



Праздник Пятидесятницы отмечается через 50 дней после Пасхи. В Ветхом завете Пасха была воспоминанием исхода евреев из египетского рабства, а Пятидесятница была памятью о даровании Богом Моисею Закона — десяти заповедей на Синайской горе; и как в Новом завете Пасха стала празднованием смерти и Воскресения Христа, "исхода людей из грешного мира в Царство Божие", так и праздник Пятидесятницы стал дарованием "нового Закона", сошествия Духа Святого на учеников Христовых.

*Фото Алексея ГАНЧУКА.*

*ПА ПРОСЬБАХ ПРАЦОЎНЫХ?*

## Падайце, людцы, беднаму калгасу!

**ІВАЦЭВІЧЫ.** ***Падобна на тое, што на Беларусі больш і больш укараняецца практыка абавязковай дапамогі, правільней, ратавання калгасна-саўгаснага ладу рукамі гараджан.***

Так, днямі на божы свет з'явіўся зварот Івацэвіцкага райвыканкама і райсавета да працоўных калектываў Івацэвіччыны. Звярнуўшы ўвагу на тое, што надвор'е апошнім часам робіць толькі "черное дело", улады, "не мудрствуя лукаво", завастрылі ўвагу працоўнага чалавека на тым, што сёння дапамога павінна зыходзіць менавіта з ягонага кашалька. Прапануецца пералічыць з разліку 20000 рублёў (5000—6000 рублёў з чалавека) за кожную тону сена, заданні па нарыхтоўцы якога ўжо былі даведзены кожнаму працоўнаму калектыву.

У звароце адзначана, што працоўныя калектывы г. Баранавічы, якія згодна з рашэннем аблвыканкама павінны нарыхтаваць у раёне 8900 тон сена, ужо "передали", "выполнили", "поставили", г. зн. кампенсавалі кошт сена ці то грашыма, ці то тэхнікай і дызпалівам. Дапамога гэтая шырокамаштабная: работнікі Баранавіцкага станкабудаўнічага завода нават буракі полюць у калгасе "Іскра" (калі справы ў калгасах-саўгасах і далей будуць дрэнь, то гараджане, відаць, будуць і сеяць, і жаць, і кароў даіць).

Улады адзначаюць, што ініцыятыва гэтай дапамогі зыходзіць, так бы мовіць, знізу, як калісьці казалі, "по просьбам трудящихся" (даўно мы ўжо не чулі такія выразы. У нас, як чытач, напэўна, памятае, "по просьбам трудящихся" нават каўбаса ў магазінах даражэла). Здзіўляе толькі тое, што сярод гэтых "ініцыятараў" значыцца аддзел культуры райвыканкама — установа, якая, як паведамляюць дасведчаныя крыніцы, сама перажывае вельмі цяжкія часы, ледзь дыхае. Можа ў гэтым аддзеле лічаць, што, аказаўшы дапамогу калгасам, працоўныя калектывы кінуцца ратаваць установы культуры? Лагічная тады ініцыятыва.

*Аляксандр МІХАЛЕНКА.*

## ПРЭС-КАНФЕРЭНЦЫЯ ЮРЫЯ ХАДЫКІ

**БАРАНАВІЧЫ.** 9 чэрвеня тут адбылася прэс-канферэнцыя Юрыя Хадыкі, намесніка старшыні БНФ.

Сустрэча, арганізаваная сябрамі мясцовага БНФ, адбылася ў бізнес-цэнтры горада на працягу дзвюх гадзінаў. У прэс-канферэнцыі ўдзельнічалі рэпрэзэнтанты баранавіцкіх дэмакратычных партыяў (БСДП, БСДГ), грамадскіх арганізацыяў ("Вясна", БХК, "Ліга жанчын") ды прафсаюзаў. Прысутнічалі тут і прадстаўнікі ўладаў, а таксама сябры Партыі камуністаў, якая ўваходзіць у Кансультацыйную раду апазіцыйных палітычных партыяў. Былі запрошаныя журналісты з "Радыё Свабода", абласной і мясцовай прэсы (як незалежнай, так і "вертыкальнай"). Асноўныя тэмы, якія цікавілі прысутных — восеньскія выбары ў парламент; так званы "дыялог", што ініцыяваны Лукашэнкам; агульнапалітычная сітуацыя ў краіне.

*Прэсавая група БНФ "Адраджэнне" і партыі БНФ.*

## Дэмакраты падтрымалі "Радыё Свабода"

**БАРАНАВІЧЫ.** Па ініцыятыве мясцовых аддзяленняў БНФ і Маладога Фронту была праведзена акцыя дзеля папулярызацыі незалежных СМІ.

На вуліцы Леніна некалькі чалавек з вялікімі бэйджамі, на якіх было напісана "Радыё Свабода", раздавалі гараджанам каляндарыкі з пазначанымі ў іх хвалямі і часам выхаду беларускіх праграмаў гэтага радыё. Інцыдэнтаў падчас акцыі, на якой удалося распаўсюдзіць 1000 такіх календароў, не было. Наадварот, цікаўныя міліцыянты падыходзілі і бралі сабе графік з'яўлення беларускіх радыёперадачаў з Прагі.

*Прэсавая група БНФ "Адраджэнне" і партыі БНФ.*

## Гарачыня закончылася ўраганам

**БАРАНАВІЧЫ**. З раніцы 12 чэрвеня стаяла спякота, а затым прыкладна ў 15 гадзін на горад наляцеў шквальны вецер з дажджом і градам. І хаця ўраган працягваўся каля 10 хвілін, пасля сябе ён пакінуў разбітыя ліхтары, абарваныя правады і вывернутыя з карэннем дрэвы. У многіх гараджан маўчаць тэлефоны.

*Сымон СВІСТУНОВІЧ.*

## СЕМІНАР НАГЛЯДАЛЬНІКАЎ

**БЯРОЗА.** Берасцейскім аддзяленнем Беларускага Хельсінскага Камітэта тут праведзены семінар па падрыхтоўцы назіральнікаў падчас правядзення выбараў.

Семінар дапаможа стварэнню ў краіне незалежнай сістэмы грамадскага кантролю пры правядзенні выбараў (перш за ўсё прэзідэнцкіх).

*Сяржук РУСЕЦКІ.*

Юридическая консультация молодежной организации "Гражданский форум" (г. Пружаны) проводит консультации для студентов по правовым вопросам. Время консультаций каждый день с 18.00 до 19.00 по телефону 2-00-40.

ЧАС РЭСПУБЛІКІ

## Плата за ацяпленне можа ўзрасці ў 7 разоў

***Прапанова Мінжылкамгаса аб павелічэнні аплаты за ацяпленне ў 7 разоў, магчыма, будзе прынята ўрадам да кастрычніка гэтага года — да пачатку наступнага ацяпляльнага сезона. Аб гэтым заявіў у інтэрв'ю карэспандэнту "Інтэрфакса" міністр жыллёва-камунальнай гаспадаркі Беларусі Аляксандр Мількота.***

"Такое павышэнне камунальных тарыфаў не здымае вастрыні праблем, што стаяць перад галіной, паколькі іх узровень не адпавядае выдаткам на паслугі, якія аказваюцца насельніцтву прадпрыемствамі Мінжылкамгаса", — сказаў кіраўнік міністэрства.

У Мінжылкамгасе таксама лічаць неабходным перагледзець механізм прадастаўлення бязвыплатных жыллёвых субсідый малазабяспечаным катэгорыям грамадзян на аплату камунальных паслуг. Як патлумачыў А. Мількота, механізм субсідзіравання дзейнічае ў краіне з 1996 года. Спачатку субсідыямі карысталася каля 20 працэнтаў насельніцтва. Аднак у сувязі з апераджальным ростам мінімальнай зарплаты (у параўнанні з камунальнымі тарыфамі) сума налічваемых субсідый апошнім часам складала каля 250 бел. руб. на сям'ю. "Мізэрны памер гэтай дапамогі не выклікае ў людзей жадання атрымліваць яе, тым больш што працэдура збору неабходных для гэтага дакументаў даволі стомная", — дадаў міністр. Ён выказаўся за тое, каб сістэма субсідзіравання стала больш эфектыўнай.

*Інтэрфакс.*

## Предупреждает Зенон Позняк

***С легитимизацией режима Александра Лукашенко Беларусь будет оккупирована Россией.***

Такое заявление сделал лидер Консервативно-Христианской партии - БНФ Зенон Позняк, выступая 13 июня в Вильнюсе на Международном конгрессе по оценке преступлений коммунизма. Именно для легитимизации существующего режима, считает З. Позняк, "Москве и ее помощникам на Западе" необходимо, чтобы в Беларуси прошли любые, даже недемократичные выборы.

"Москва говорит об интеграции, а готовит оккупацию", — считает Зенон Позняк. Затем, по его словам, может произойти и оккупация Литвы. "Мы уже видим эту генеральскую политику — "отторгнутое возвратить", — сказал Позняк.

*БелаПАН.*

## Прэзідэнт разгледзеў задачы аграрнага сектара

"Усё, чым дзяржава магла дапамагчы сельскай гаспадарцы, яна ўжо зрабіла, і ніякіх дадатковых уліванняў у аграрны сектар больш не будзе. Нават нягледзячы на неспрыяльную сітуацыю, што складваецца цяпер у Беларусі. А надвор'е заўсёды было для беларускіх земляробаў выпрабаваннем на трываласць", — заявіў Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка на нарадзе, дзе былі разгледжаны актуальныя праблемы аграпрамысловага комплексу ў перыяд нарыхтоўкі кармоў і ўборкі ўраджаю, якая не за гарамі.

Што датычыць адной з галоўных задач — нарыхтоўкі кармоў, то кіраўнік дзяржавы папярэдзіў старшынь аблвыканкамаў аб іх персанальнай адказнасці за якасць і аб'ём нарыхтаваных сена і сенажу. Да 1 лістапада ў кожнай гаспадарцы павінен быць створаны запас кармоў як для грамадскага пагалоўя, так і для жывёлы асабістых падвор'яў вяскоўцаў. Аднак гаспадаркі абавязаны дапамагчы толькі тым, каму не пад сілу нарыхтаваць іх самому, гэта значыць у асноўным пенсіянерам. Большасць тых, хто мае ў сваім распараджэнні зямлю, павінны самі паклапаціцца аб сабе.

*БЕЛТА.*




# БЕЗ ГАРАЧАЙ ВАДЫ...

**Івацэвіцкі райвыканкам вырашыў, што менавіта ў летні час гараджанін (якога ў невялікім райцэнтры часта цяжка адрозніць ад вяскоўца) можа абысціся без гарачай вады.**

Цяжка зразумець матывацыю такіх дзеянняў, бо менавіта летам людзі шмат працуюць на зямлі, што вымагае іх часцей прымаць душ, мыцца. Тое, што камунальнікам неабходны час для рамонту, зразумела, але не зусім зразумела тое, чаму тэрміновасць гэтых рамонтаў выліваецца ў бясконцыя дні, тыдні, месяцы.

Ужо больш месяца няма гарачай вады ў райцэнтры Івацэвічы. Столькі ж часу стаіць на рамонце адзіная гарадская лазня. Прывычныя да ўсяго, нашы сугрмадзяне выкручваюцца з гэтай сітуацыі хто як можа... Старшыню Івацэвіцкага райвыканкама, напрыклад, можна часта пабачыць на купанні на вадаёмах нават у тыя дні, калі і сонца хаваецца за хмарамі. Але, каб брацъ з яго прыклад, трэба па меншай меры мець добрае здароўе. Зрэшты, падначаленыя з Дома Саветаў з яго прыклад не бяруць.

**P. S.** Дарэчы, у Бярозаўскім, Пружанскім, Баранавіцкім раёнах лазні працуюць.

*Аляксандр МІХАЛЕНКА.*
*Аляксей ГАНЧУК (фота).*

## За масаж - плата

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Яшчэ адна паслуга - масаж - стала платнай у раённай бальніцы. Праўда, пакуль што толькі для хворых, што не знаходзяцца на стацыянарным лячэнні ў тым ці іншым аддзяленні. Так, дзесяць сеансаў масажу грудной клеткі або вобласці пазваночніка каштуюць 2860 рублёў, шыйна-варатніковай, ніжнегрудной і паяснічна-крыжовай косці - 1840 рублёў. Масаж канечнасцей ацэньваецца ў 1330 рублёў.

Масажыстам ад гэтай аплаты дастаецца толькі 10 працэнтаў.

*Мікалай ДЗМІТРУК.*

ХОДЗЯЦЬ ЧУТКІ, ШТО...

## ...У Івацэвічах лютуе дызентэрыя

Не давяраць або ставіцца несур'ёзна да такіх чутак няма ніякіх высноў: звычайна летам колькасць людзей, "падхапіўшых" вострыя кішэчныя інфекцыі, павялічваецца. Тым больш, што бактэрыяльная дызентэрыя сёлета атрымала "цёплы" прыём на Беларусі: як паведамляюць многія СМІ, на Магілёўшчыне захворванні на дызентэрыю набылі масавы характар. Праясніць сітуацыю мы папрасілі **галоўнага санітарнага ўрача Івацэвіцкага РЦГіЭ Аляксандра КОВЫША:**

— Згодзен з тым, што ўзровень захворванняў на вострыя кішэчныя інфекцыі высокі. Так, пасля першага квартала наш раён знаходзіўся аж на трэцім месцы ў вобласці, у тым ліку па бактэрыяльнай дызентэрыі — на сёмым. Такім чынам, паказчыкі па раёну былі вышэй за сярэднія паказчыкі па вобласці.

Што тычыцца паказчыкаў за другі квартал, то мы, зразумела, не можам параўнаць з іншымі раёнамі, паколькі, самі разумееце, гэты квартал не закончыўся, канчатковых дадзеных мы яшчэ не маем.

Але можам вам прапанаваць лічбы за пяць месяцаў сённяшняга і мінулага гадоў. Так, за пяць месяцаў 1999 года мы зарэгістравалі 71 выпадак вострых кішэчных інфекцый (з іх 18 — бактэрыяльнай дызентэрыі), у адпаведным перыядзе 2000 — 59 (з іх 18 — дызентэрыя).

Пры агульным зніжэнні паказчыкаў, як вы бачыце, не зніжаюцца паказчыкі па захворваннях на дызентэрыю. Тым не меней, падкрэслю, сітуацыя пад кантролем. Звернем толькі ўвагу нашых сугрмадзян на неабходнасць захоўвання мер перасцярогі, на неабходнасць выконвання самых элементарных гігіенічных працэдур (ужыванне **чыстых** гародніны і садавіны, мыццё рук і г. д.).

*Аляксандр ГОРБАЧ.*

## "Дубровачка" працуе

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Лета — пара адпачынку, асабліва для дзяцей. У лагеры "Дубровачка" іх зараз 212. Першая змена не запоўнена. Яшчэ 38 хлопчыкаў і дзяўчынак маглі б тут адпачыць і набрацца новых сіл. Уся справа ў кошце пуцёўкі — 76 тысяч рублёў. Не кожная сям'я мае такія грошы. Праўда, 60 тысяч рублёў выдзяляецца з бюджэту і розных фондаў прадпрыемстваў і арганізацый. Застаецца 16 тысяч рублёў, але і іх знайсці ў сямейным бюджэце нялёгка.

Як сказалі нам у райкаме прафсаюза работнікаў аграпрамысловага комплексу (ён жа гаспадар лагера "Дубровачка"), некаторыя бацькі плацяць менш 16 тысяч рублёў, калі ім аказваецца дапамога. Нягледзячы на гэта, сваімі дзецьмі лагер на першую змену запоўніць не ўдалося, 50 рабят прыехалі з іншых раёнаў. А вось на другую змену ў лагер пададзена ўжо 280 заяў. Што ж, гэта радуе і абнадзейвае.

*Святаслаў КАЖАДУБ.*



КРЫМІНАЛ

## Похитители автомобилей

**БАРАНОВИЧИ.** Сотрудники городского уголовного розыска задержали группу молодых людей, которые подозреваются в краже около десятка автомобилей.

Уже доказано, что один 23-летний и два 24-летних мужчины в июле прошлого года угнали автомобиль "Фольксваген-Пассат", а в декабре - "Ауди-80". Числившиеся в угоне автомобили были найдены в их гараже в разобранном виде. Есть подтверждения еще о двух фактах подобных краж. Сотрудники уголовного розыска считают, что в ходе следствия "всплывет" еще не один краденый автомобиль, попавший в руки задержанных.

Сейчас против них возбуждено уголовное дело по статье 87, часть 4 - кража, совершенная организованной группой в особо крупных размерах. За это преступление закон предусматривает наказание в виде лишения свободы на срок от 7 до 15 лет с конфискацией имущества.

*Валентина КОЗЛОВИЧ, БелаПАН.*

## Называецца "прадаў"

**ІВАЦЭВІЧЫ.** Без долараў і без машыны застаўся жыхар вёскі Глінная. Тое, што ягоная "Мазда" зацікавіла афіцэра расійскай арміі (насамрэч прайдзісвета) і што з'явілася магчымасць, нарэшце, прадаць "японку", паўздзейнічала на гаспадара так, што ён нават забыў праверыць тыя грошы — долары, якімі "афіцэр" разлічыўся.

Толькі праз тыдзень, калі гаспадар рашыў больш уважліва перагледзець і пералічыць "зялёныя", высветлілася, што тысяча "баксаў" — фальшывыя. Падробкі канфіскавала міліцыя, а пошукі "афіцэра", які нібыта прыехаў з Гомельшчыны, пакуль вынікаў не далі.

*Аляксандр МІХАЛЕНКА.*

РЫНКАВАЯ ПЛОШЧА

# ШТО ПАЧЫМ?

***Цэны на рынках нашага рэгіёна па стану на 14.06.2000 г. (у руб. за адзін кілаграм):***

| | Івацэвічы | Баранавічы | Бяроза | Пружаны |
|---|---|---|---|---|
| Свініна | 1200—3000 | 1500—3000 | 1200—2800 | 1300—3000 |
| Сала салёнае | 1500 | 1500 | 1200 | 1250 |
| Алей (1 л) | 630—850 | 600—900 | 650—800 | 660—750 |
| Яйкі | 400—450 | 400—500 | 450—500 | 400—460 |
| Малако (3 л) | 360 | 360 | 360 | 300 |
| Тварог | 350—450 | 350—400 | 400—500 | 360 |
| Масла сметанк. | 1500 | 1800 | 1500 | 1600 |
| Цыбуля (1 пучок) | 80—100 | 80—100 | 80—100 | 80—100 |
| Кроп (1 пучок) | 50 | 50—80 | 50 | 50-60 |
| Капуста св. | 350 | 400—500 | 480—500 | 500 |
| Клубніцы | 750—900 | 1000 | 700—800 | 800—900 |
| Агуркі свеж. | 300 | 300—450 | 380—400 | 300—400 |
| Яблыкі | 450—950 | 360—750 | 380—480 | 400—550 |
| Памідоры | 1000 | 900 | 1000 | 1300 |
| Вінаград | 1800—2600 | 2000 | 2200 | 2500 |
| Грэцкія арэхі | 950 | 850—950 | 850 | 930 |
| Часнок | 1000 | 1100 | 1100 | 1000 |
| Лімоны | 1000 | 900 | 990 | 1000 |
| Апельсіны | 650—700 | 700—750 | 790 | 730 |
| Бананы | 500—700 | 600—750 | 790 | 700—800 |
| Мандарыны | 1000 | 900 | 1000 | 1000 |
| Грэчка | 630—650 | 600 | 650 | 650—660 |
| Макар. вырабы | 300—430 | 300—400 | 280—320 | 270—300 |
| Рыс | 450 | 420 | 400—430 | 470—500 |
| Манныя крупы | 400 | 350 | 350 | 360 |
| Проса | 240—300 | 300 | 230 | 300 |
| Цукар | 320 | 320 | 320 | 320 |
| Мёд | 3.000 | 3.000 | 3.000 | 3.000 |

**РАСАДА (за 10 шт.)**

| | | | | |
|---|---|---|---|---|
| Памідоры | 150 | 200 | 150 | 200 |
| Капуста | 100 | 100 | 100 | 100 |
| Перац | 200 | 200 | 200 | 200 |

**ВАЛЮТА НА "ЧОРНЫМ" РЫНКУ (руб.)**

| | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж | купля | продаж |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| 1 долар ЗША | 970 | 1000 | 970 | 1000 | 970 | 1000 | 970 | 1000 |
| 1 дойчмарка | 485 | 500 | 485 | 500 | 485 | 500 | 485 | 500 |
| 1 рубель Расіі | 33 | 34 | 33 | 34 | 33 | 34 | 32 | 33 |

● РОЗДУМ

# КАЛІ І ШТО МЫ СТРАЦІЛІ...

Пэўны жыццёвы ўзровень усё часцей падводзіць мяне да пытанняў: "Хто мы? Для чаго жывём?" — і дорыць мне бяссонныя і пакутлівыя ночы.

Разуменне рэчаіснасці жыцця вяртае мяне ў далёкае дзяцінства і юнацтва, калі я была шчаслівая ад таго, што жыла ў дружнай і паважанай сям'і, дзе не разыходзіліся справы са словамі, а бацькі сваім асабістым прыкладам выхоўвалі ў нас высокія маральныя якасці.

Наша вёсачка Лясковічы была на той час немалая, людзі жылі працавітыя, таму будавалі на тыя часы дыхтоўныя будынкі, якія патаналі ў садах. Прыгажосць надаваў бярозавы гай, які астраўком размясціўся на адной з вуліц паміж дамамі (праўда, зараз ён загублены).

Усе дзеці нашай вёскі раслі працавітымі, з ранняга дзяцінства дапамагалі бацькам у асабістай гаспадарцы і ў калгасе. Але цяжкая праца за "палачкі" адпудзіла ад работы ў сельскай гаспадарцы, таму я марыла стаць вясковай настаўніцай, і ніхто з маіх аднакласнікаў нават не думаў аб сельскагаспадарчай спецыяльнасці. Яны сталі медыкамі, тэхнолагамі, інжынерамі, ваеннымі, рабочымі.

Ці не тады, у канцы 60-х, ужо намецілася выміранне вёскі? А ўсё ж мы не на словах, а на справе любілі сваю родную мясціну. З вялікай ахвотай мы садзілі школьны сад, ліпавы парк каля клуба, дрэвы каля магазіна, а на маёй вуліцы доўга раслі дрэвы, пасаджаныя маімі рукамі, пакуль жыхары-навасёлы не вырашылі перарабіць па-свойму.

Усе мы з пачуццём тугі адрываліся ад родных гнёздаў, адчуваючы, што больш не вернемся сюды. Амаль усе сталі гарадскімі з душамі вяскоўцаў.

Са шкадаваннем думаеш, што ўсё магло быць інакш, калі б не знікла ў нас пачуццё гаспадара. У вачах часта ўзнікаюць карцінкі таго, як бы магло быць, калі б не перарываліся традыцыі, карані пры ўмовах вольнай працы на зямлі, пры клопаце дзяржавы аб адным: законам бараніць гаспадара ад прыніжэння і рабавання.

Але адбывалася зусім не так. У вёску прыязджалі кіраваць нетутэйшыя, якім было напляваць і на наваколле, і на людзей. Яны адразу за чужы кошт адбудоўвалі сабе жытло і не толькі ў вёсцы. Набывалі ў калгасе легкавушкі ў асабістае распараджэнне і паводзілі сябе па-панску, выклікаючы ў калгаснікаў і іх дзяцей пачуццё зайздрасці, недабразычлівасці і прыніжэння. Але гэта было ўжо без нас. Мы толькі канстатавалі збядненне нашых бацькоў і іх поўнае бяспраўе.

Усё лагічна: шыкоўнае жыццё адных адбывалася і адбываецца за кошт збяднення другіх. А калгас усё больш развальваецца. Пачынаўся як авечкагадоўчы, а зараз авечак і ў паміне няма, ды і хаты амаль усе пустыя. Амаль вымерла вёска Лясковічы, у новых дамах жывуць амаль усе прыезджыя. Часта такія, якіх ужо нідзе не бяруць. А для прадаўжэння калгасу стварылі спецкамендатуру, прывезлі асуджаных. І цяпер, гледзячы на пудовыя замкі на ўсіх дзвярах (але і гэта часцяком не ратоўвае), з замілаваннем успамінаеш тыя часы, калі, як на Захадзе, не трэба было замкоў, а ровары стаялі ўсю цёплую пару пад хатай.

Усе мае равеснікі сталі добрымі спецыялістамі, застаючыся сумленнымі людзьмі, амаль ніхто кіраўніком і партыйным работнікам на стаў. Зараз разумею, што дух у нашым родным кутку быў такі. Сустракаючыся, бачу, што па-дзіцячы чыстымі яны засталіся, а вось пачуццё гаспадара, на жаль, пакінула многіх. Я стала настаўніцай, але гарадской. Праўда, жыву ў сваім раёне ўсё жыццё, але чым далей, тым больш адчуваю сябе чужой. Бо тыя, хто з маленства былі прывучаны да жыццёвай хітрасці, не грэбавалі прыніжэннем і гнуткасцю перад вышэйстаячымі, сталі распараджацца маім жыццём. Так і з жыццямі іншых маіх вяскоўцаў. Але самастойнае жыццё ўжо было са страхам, нас прывучалі не супраціўляцца і ўспрымаць усё як ёсць, дазваляючы быць суддзямі тым, хто часцяком павінен быць падсудным.

І вось мы прыйшлі да той мяжы, калі так далей жыць нельга. Тое чыстае, светлае, боскае, што закладзена было ў нас нашымі бацькамі, павінна стаць пачаткам канца цемрашальства і рабства. Бо ўжо не толькі вёска вымірае, а вымірае усе мы і дзеці нашыя. Трэба сцепануцца, скінуць абыякавасць да свайго лёсу і лёсу дзяцей. (Звер бароніць сваё дзіця, а мы ж людзі...) Ды ў поўны голас паставіць рытарычнае пытанне-запатрабаванне для тых, хто нібыта пячэцца пра нас і дзяцей нашых: "Дакуль?!" Дакуль:

а) будуць кіраваць намі людзі, скампраметаваўшыя сябе?

б) не будзе паўсюдна адказных за правалы ў эканоміцы, сельскай гаспадарцы?

в) будуць эканоміць сродкі на здароўі людзей?

г) будуць грэбаваць законамі?

д) будзе рабаванне і знішчэнне сваіх людзей, абыякавасць да іх лёсу?

Але мне здаецца, што гэтыя пытанні я задаю болей сама сабе ў цёмныя бяссонныя ночы, бо не дастукацца да іх сэрцаў з гэтымі пытаннямі, бо ў іх грудзях даўно ўжо каменне замест сэрцаў і не да Боскіх запаведзяў ім, бо ў сатанінскім шабашы забылі яны іх. Трэба памятаць усім нам, што ёсць Боскі суд і пакуль яшчэ не зусім позна задаць пытанне ўсім нам і тым, хто вядзе сябе, як гаспадар, і тым, каго зрабілі чужынцамі на сваёй роднай зямлі, як перад апошняй мяжой: "Што я добрага зрабіў? Які след пакідаю на гэтай зямлі?"

І дзіўна мне, што можна мець поўную асалоду ад матэрыяльнага дабрабыту ў жабрацкай і адсталай краіне... Няма боязі праклёнаў?..

Пакаяцца трэба нам усім і пачаць спяшацца рабіць дабро не на словах, а на справе, ставіцца да кожнага так, як бы хацеў, каб ставіліся да цябе, усім прыгнечаным набываць пачуццё гаспадара і наогул выхавання чалавека.

*Тамара ШЧАПЁТКІНА,*
*старшыня Бярозаўскай раённай рады Беларускага жаночага руху "Адраджэнне Айчыны".*

● КОНКУРСЫ

## "САМАЯ ОБАЯТЕЛЬНАЯ И ПРИВЛЕКАТЕЛЬНАЯ"



*ЕЛЕНА, по гороскопу — Близнецы. Моя любимая группа "Руки вверх", "Стрелки". У меня самые разные увлечения, а мечтаю поступить в медицинское училище. Нравятся бритоголовые, мужественные, решительные парни.*

## "СЯБРЫ ГАРМОНІІ І ШТАНГІ"

*ВІТАЛЬ, па гараскопу — Дзева. Вольны час — з сябрамі на возеры. З задавальненнем слухаю рускі шансон у выкананні Міхаіла Круга, сачу за творчасцю Джона Траволты. Падабаюцца абаяльныя, з развітым пачуццём гумару дзяўчаты. Маю ўвагу заўжды прыцягваюць прыгожыя жаночыя ногі.*

● СОЦИОЛОГИЯ

# Жертвы преступлений в Беларуси

В современном белорусском обществе состояние системного кризиса, экономическая дифференциация, снижение уровня жизни, социальная незащищенность и массовая социокультурная анемия привели к значительному росту преступности населения. По данным уголовной статистики, за последнее десятилетие общее число зарегистрированных преступлений увеличилось в три раза и достигло в 1999 году более ста тридцати тысяч. Число тяжких преступлений увеличилось более чем в 5 раз и составляет 56% всех преступлений. При этом фактическая преступность примерно вдвое превышает зарегистрированные показатели. Значит, за год в Беларуси реально совершается около четырехсот тысяч преступлений.

Соответственно этим негативным масштабам и тенденциям в республике значительно увеличились общие размеры социального, материального и нравственного ущерба, причиняемого преступлениями гражданам, социальным институтам и обществу в целом. Общее число потерпевших от преступлений составляет более пятидесяти тысяч. От убийств число потерпевших составило более тысячи, от умышленных тяжких и менее тяжких телесных повреждений — более двух с половиной тысяч, от изнасилований — около пятисот, от краж — более двадцати пяти тысяч, от грабежей — около пяти тысяч, от хулиганств — более четырех тысяч. Материальный ущерб, причиняемый преступлениями, огромен. Совсем не поддаются подсчету социальные издержки, нравственные и психологические травмы и страдания жертв преступлений.

По результатам социологических опросов более половины населения высказывает беспокойство, страх и тревогу распространенностью преступности в обществе.

*Николай БАРАНОВСКИЙ,*
*доктор социологических наук,*
*БелаПАН.*

● ГОЛАС НАРОДА

# Кім вы марыце стаць?

***Неяк непрыкметна адышлі ў нябыт тыя часы, калі, нібы рапартуючы, наша моладзь сцвярджала, што марыць стаць касманаўтамі, урачамі, настаўнікамі, перадавікамі вытворчасці ды хоча цэлым класам застацца на калгаснай ферме. Ніхто не хацеў сказаць (ці саромеўся, ці баяўся), што хоча быць брокерам, дзілерам, камерсантам.***

***Пра што ж марыць сённяшняя моладзь, тыя, каму заўтрашнім днём з мноства дарог давядзецца выбраць адну? Якія арыенціры ў сённяшніх школьнікаў? Вось якія адказы мы пачулі на вуліцах г. Івацэвічы.***



**Марына**: Мне падабаецца работа адваката. Яна, канешне, складаная і адказная, але за гэта мне і падабаецца. Буду дапамагаць людзям шукаць праўду, абараняць людзей буду. Яшчэ мне падабаецца работа настаўніцы, а астатнія прафесіі пакуль што не ўражваюць.



**Дзмітрый:** Я стану дальнабойшчыкам. Хачу свет белы пабачыць. Гэта цікавей, чым усё жыццё ў райцэнтры сядзець. Касманаўтам? Ніколі не збіраўся стаць. Настаўнікам таксама не хачу, бо сам вучуся слабавата. Ды й мне, скажу па праўдзе, праца настаўніка зусім не падабаецца.



**Лёша:** Буду праграмістам, люблю працаваць на кампутары. Хаджу ў гурток, дзе мы асвойваем адпаведныя веды, працуем на кампутары. Мне хадзіць у гэты гурток цікавей, чым куды-небудзь яшчэ. Я перакананы, што праз гадоў тры-пяць ніводная галіна гаспадаркі краіны не зможа працаваць без камп'ютэрнага забеспячэння.



**Яўген:** Байкерам буду. Вы кажаце, што гэта не прафесія, а для мяне гэта будзе прафесія (байкеры — гэта так званыя браты ветру, тыя, для каго адзіная ўцеха і захапленне — матацыклы — **рэд.**) Зараз я больш за ўсё часу праводжу каля сваёй "Явы". Ну, яшчэ падабаецца крышачку работа ўрача.



**Юля:** Я буду юрыстам. Гэта маё захапленне з дзяцінства. Вы ж ведаеце, кожнае слова юрыста важкае і значнае. Да таго ж, мая старэйшая сястра вучыцца на юрыдычным факультэце, таму, як бачыце, мая схільнасць падмацоўваецца адпаведным прыкладам.

*У народ хадзілі Аляксандр ГОРБАЧ і Аляксей ГАНЧУК (фота).*




**(Працяг. Пачатак у №№ 21, 22, 23).**

**10.**

Як вядома, будаўніцтва канала было падтрымана Варшаўскім сеймам 1768 года, які пастанавіў падараваць Агінскаму мястэчка Лагішын (цяпер Пінскі раён) і вёску Мышкаўцы з прылеглымі землямі і дазволіў з пачаткам сплаву спаганяць мыта "па 8 злотых з вясла ці ад спіцы". Дарэчы, канал і бярэ пачатак з ракі Ясельды паблізу Лагішына.

Ужо ў 1775 годзе польскі сейм абвясціў пачатак сплаву лесу, але канал яшчэ не быў поўнасцю добраўпарадкаваны.

Будаўніцтвам канала цікавіліся вышэйшыя асобы польскай дзяржавы. Напрыклад, кароль Станіслаў Аўгуст у 1784 годзе зрабіў падарожжа па землях Міхаіла Казіміра Агінскага. Праўда, цікавасць да гэтага збудавання была і раней, аб чым сведчаць вусныя і пісьмовыя выказванні самых розных службовых асоб і тагачасных паэтаў.

Так, у гасціннай сям'і Бутрымовічаў у Крыстанаве кароль Станіслаў Аўгуст убачыў партрэт Агінскага з вершам пра Целяханы і канал з наступным подпісам: **"Да яго міласці пана Агінскага, гетмана Вялікага княства Літоўскага, што заняўся пракладкай канала "Порт Агінскі" і ў той жа час узвядзеннем на тым жа канале плаваючага тэатра, у якім у 1771 годзе былі паказаны оперы і камедыі".**


*Рака Ясельда вясной (Пінскі раён).*

А ў Пінску спецыяльна да прыезду караля быў напісаны хвалебны верш для дэкарацыі залы, каб стварыць алегарычны вобраз канала:

Я — вынік працы
каштоўнай,
нязгладны след
Стагоддзям перадам,
як дзейсны прыклад
каралёў.
Жадае кароль
для краю дабра,
хочуць яго грамадзяне.
Лёгка вызначыць,
што кароль можа,
калі яны так шмат змаглі.

У верасні (прыкладна 12 чысла) 1784 года кароль Станіслаў Аўгуст затрымаўся ў Целяханах у сястры гетмана Агінскага. Былая манашка Ганарата Агінская з пашанай вітала караля, які з "вялікім задавальненнем" агледзеў паркі, фантаны і аздобы замка і праслухаў канцэрт прыдворнага аркестра. А вечарам ён прысутнічаў на пастаноўцы оперы "Дэзерцір" і на адным з балетаў у святочна асветленым тэатры, запоўненым выбранай публікай, якую прапускалі толькі па запрашальных білетах.

Пра гэтае падарожжа караля Станіслава Аўгуста чытаем у лісце да цёткі гетмана Агінскага: **"Пасля таго як я толькі што правёў некалькі дзён у пана Вялікага гетмана літоўскага, дзе адведаў і найлепшых уцех, і найветлівейшага прыёму, мне асабіста робіць задавальненне засведчыць вам, літасцівая пані, якой радасцю для мяне было бачыць так цудоўна распачатую справу Вашага паважанага хроснага, а менавіта канал, якому належыць злучыць моры..."**

**11.**

І яшчэ аб адным лісце караля. Ён датуецца 22 студзенем 1785 года. Справа ў тым, што ў гэты час гетман Міхаіл Казімір Агінскі знаходзіўся за мяжой. Кароль прапанаваў гетману **"нарэшце закончыць свае замежныя забавы, каб там дарэмна не траціць грошай"**, а выкарыстаць іх на завяршэнне распачатых добрых спраў, у першую чаргу — канала.

Па ўсім відаць, зварот караля падзейнічаў на гетмана Агінскага, і ён неўзабаве вярнуўся і актыўна ўключыўся ў распачатую справу. У яго было многа планаў і задумак. У Целяханах, напрыклад, меркавалася пабудаваць над каналам вялікія аркады (шэраг аднолькавых арак) і на такой вышыні, каб пад імі маглі праплываць параходы. Аднак яны былі ажыццёўлены толькі часткова.

Да таго ж, зробленае Агінскім, і пры жыцці выклікала захапленне. Найбольш дакладна выказаў гэта Катаян Вергерскі ў сваім вершы "Да Агінскага, Вялікага гетмана літоўскага". Ён пісаў, што калі б трапіў на неба і калі б яму надакучылі сумныя спевы нябесных хораў, то сказаў бы:

Агінскі! Перш чым анёл
прыйдзе цябе
наведаць,
Мушу яго я, пэўна,
шчыра папярэдзіць.
І мушу быць хоць
у жыцці шчаслівым:
Бачыць цябе ў Слоніме
і цуды ўсе тыя.
У якіх знойдуць
асалоду анёлы і святыя,
Каб з пекных рыфмах
памяць вечную пакінуць!

1786 год стаў для Міхаіла Казімііра Агінскага сапраўды памятным. Ён выступіў з красамоўнай прамовай на сейме і абвясціў аб перадачы бацькаўшчыне канала. Сейм рашыў ушанаваць заслугі Агінскага помнікам ля замка ў Вільні. На жаль, такі помнік не быў устаноўлены. Былі выдзелены таксама сродкі на завяршэнне будаўніцтва канала. Хаця ва ўсіх гістарычных крыніцах паведамлялася, што будаўніцтва канала закончана яшчэ ў 1789 годзе. Іншыя крыніцы паведамлялі, што яшчэ некалькі гадоў ішло добраўпарадкаванне канала, пакуль на ім паявіліся пасажырскія параходы, баржы, плытагоны — словам, пачалося практычнае асваенне новай воднай сістэмы, якая злучыла два моры — Чорнае і Балтыйскае.


*Вулька-Целяханскае возера.*

## III. У МІРНЫЯ І ВАЕННЫЯ ГАДЫ

**1.**

Даследчыкі прызнаюць, што вядомы на Беларусі Агінскі канал, які праз Выганашчанскае і Вулька-Целяханскае азёры злучае Ясельду са Шчарай, а значыць Чорнае мора з Балтыйскім, самы стары з беларускіх каналаў. У свой час ён меў важнае транспартнае значэнне і адыграў пэўную ролю ў эканамічным развіцці беларускага Палесся.

У Целяханах па вуліцы Леніна жыве Гаўрыла Карнеевіч Лукашэвіч. Ужо стары чалавек, але даволі бадзёры. Размаўляе з ахвотай. Праўда, многае ім забыта, што расказвалі бацька і дзед пра Агінскі канал, але па асобных урыўках можна ўзнавіць малюнак тых далёкіх часоў. Я слухаў і думаў, што чалавечая памяць здольная захаваць для нашчадкаў не толькі самыя значныя падзеі, але ж, на першы погляд, і дробныя, нейкія дэталі, якія праліваюць святло на асаблівасці тагачаснага жыцця.

— Канал выкапалі, потым яго добраўпарадкоўвалі і калі рыхтаваліся да рабочага пуску, спатрэбіліся людзі для абслугоўвання гэтай воднай сістэмы, — кажа Гаўрыла Карнеевіч. — Але ж дзе ўзяць тых мужыкоў? У Вульцы-Целяханскай тады жыло нямнога вяскоўцаў. Яны не спраўляліся з работай. А ў лесе за цяперашнімі Выганашчамі знаходзілася паселішча лясных жыхароў. Улады вырашылі іх выгнаць адтуль і пасяліць ля канала. Так і зрабілі...

Па словах Лукашэвіча, новае пасяленне назвалі Выганашчы (утварэнне ад аднакарэннага слова выганяць), а возера, што звалася ўвесь час Свяціцкім, стала называцца Выганашчанскім. Улады перш за ўсё ўзвялі царкву ў метрах ста ад канала, каб гэтаю святыняю прыцягнуць сюды людзей. А лясныя жыхары будаваліся самі, разворвалі бліжэйшыя землі і, канешне, працавалі на канале.

**2.**

Па канале ў грузавых суднах і баржах перавозілі збожжа, пяньку, пушніну, мёд і іншыя тавары. У пачатку XIX стагоддзя пачалі хадзіць невялікія параходы з пасажырамі. Вельмі многа сплаўлялі лесу. Гэта быў танны спосаб перамяшчэння драўніны. Усё названае ішло ў краіны Заходняй Еўропы. У адваротным напрамку везлі металавырабы, станкі, тканіны, дываны, усялякія ўпрыгажэнні.

У былой глухамані паблізу канала пачалі расці і развівацца прамысловыя і культурныя цэнтры. У тыя гады ў Пінску, Целяханах, Слоніме, іншых населеных пунктах пабудавалі дзесяткі тартакоў, дрэваапрацоўчых і тэкстыльных прадпрыемстваў, цагельных і металаапрацоўчых заводаў. Былі створаны тэатры і друкарні, сталі выдаваць кнігі і газеты.

**3.**

У першую сусветную вайну па Агінскім канале ішла лінія абароны, і, вядома, многія збудаванні на канале, і ў першую чаргу шлюзы, былі разбураны або пашкоджаны. Царская армія адступала, і летам 1915 года тут паявіліся немцы. Яны пачалі ўмацоўваць сваю лінію абароны. На заходнім беразе канала былі пабудаваны сотні жалезабетонных бліндажоў, штабных, баявых і гаспадарчых. На ўчастку Целяханы-Выганашчы іх налічвалася звыш 50. Паміж шэрымі бункерамі былі выкапаны глыбокія, у чалавечы рост акопы.


*Нямецкі абарончы бункер, пабудаваны ў час першай сусветнай вайны (г. п. Целяханы Івацэвіцкага раёна).*


*Рака Шчара (Івацэвіцкі раён).*

Каб знянацку не прарвалася сюды руская кавалерыя, на сярэдзіне рэчышча канала (пераважна там, дзе канал праходзіў па цвёрдай мінеральнай глебе) была нацягнута драцяная сетка вышынёй два метры. Апоры-слупы былі металічныя. А лінія абароны рускай арміі ішла паралельна Агінскаму каналу, прыкладна на адлегласці аднаго кіламетра. Акрамя канала, як перашкоды, яшчэ былі зроблены загароды з калючага дроту.


*Гаўрыла Карнеевіч Лукашэвіч, жыхар г. п. Целяханы (фота 80-х гадоў).*

Складвалася ўражанне, што немцы прыйшлі сюды надоўга, бо неўзабаве актыўна распачалі гаспадарчую дзейнасць.

За кароткі тэрмін былі пракладзены вузкакалейкі ад Івацэвічаў праз вёскі Святая Воля і Доўгая на Іванава, а другая — праз Святую Волю ва ўрочышча "Шырокае поле". Тут пазней узнікла вёска пад прыгожай назвай Красніца. Адсюль вузкакалейку праклалі да Выганашчаў і Целяхан, а таксама ў бок Баранавічаў да Выганашчанскага возера.

Асноўная перапрацоўка лесу была наладжана ў Красніцы. Тут працавала часовая электрастанцыя, былі ўстаноўлены цыркулярныя пілы. Уся выпрацаваная прадукцыя адпраўлялася ў Германію і чыгуначным, і водным шляхам.

Паблізу Выганашчаў ва ўрочышчы "Ганя" немцы стварылі падсобную гаспадарку. На мясцовых землях вырошчвалі жыта, касілі траву, гадавалі жывёлу.

У Расіі адбылася кастрычніцкая рэвалюцыя, уладу захапілі бальшавікі. У 1918 годзе ў Германіі таксама адбылася рэвалюцыя. Гэтыя падзеі і паўплывалі на адступленне немцаў. Неўзабаве на змену ім у зону Агінскага канала прыйшлі палякі. Лінія абароны абодвух варожых бакоў засталася ранейшай.

**4.**

Як сведчаць гістарычныя крыніцы, больш чым паўгода (з лютага па ліпень 1919 года) палескія партызаны сваімі ўласнымі сіламі паспяхова адбівалі ўсе атакі палякаў па лініі Агінскага канала ад Целяхан да Лагішына.

*Святаслаў КАЖАДУБ.*
*(Працяг будзе).*

● КУЛЬТУРА

# БУДУЦЬ ТАНЦЫ СЁННЯ Ў НАС. А Ў ВАС?

*Загадчык сельскага клуба — фігура для сельскай моладзі, безумоўна, знакавая. Асабліва цяпер, калі ў дзяржавы ні на што не хапае грошай, а на справы культуры яшчэ больш махнулі рукой, чым на калгасна-саўгасныя справы.*

*Як жывецца або правільней, як выжывае сёння індустрыя вясковага адпачынку? Хто сёння ходзіць на танцы ў вясковы клуб, як часта ходзяць, як справы з абсталяваннем, апаратурай? На гэтыя і іншыя тэмы з намі згадзіўся весці размову загадчык Майскага сельскага клуба Івацэвіцкага раёна Аляксандр ЖЫЛІЧ.*

**— Аляксандр, ці лёгка сёння быць загадчыкам сельскага Дома культуры?**

— І лёгка, і не. Лёгка працаваць, калі падабаецца твая справа, цяжка, калі разумееш, што сёння шмат залежыць не толькі ад цябе. А зрабіць усё ты не ў сілах.

**— А што хацелася б зрабіць?**

— Забяспечыць нашу ўстанову ўсім належным, зрабіць адпачынак цікавым для наведвальнікаў усіх узростаў.

Пакуль што толькі моладзь ад 14 да 20 гадоў, якая, нягледзячы ні на што, не вешае нос, весяліцца на сяле.

**— Але ж справы ў вашым клубе не так ужо і кепска ідуць. Музыка гучыць на ўсю залу самая сучасная, моладзі шмат. Праблемы з апаратурай вырашыліся. Дзякуючы каму?**

— Дзякуючы раённаму аддзелу культуры ды Любішчыцкаму сельскаму Савету. Ведаючы тое, як ідуць справы ў іншых падобных установах, не буду асабліва прывярэднічаць. Дзякуй за тое, што ёсць. Хоць, як я заўважаю, гісторыя з набыццём апаратуры нашым клубам сёння для ўсіх "притча во языцех".

**— Што хочаш сказаць тым?**

— Ды вось нядаўна чытаў у газеце "Івацэвіцкі веснік" артыкул, у якім аўтар В. Гапееў, жадаючы выдаць свае фантазіі за праўду, распавядаў пра тое, як наш клуб абзавёўся апаратурай. Моладзі вёскі Панкі, якая звярнулася ў рэдакцыю "веснік", гэты карэспандэнт раіў сабраць грошы на апаратуру гэтак жа, як сабрала грошы моладзь Майска, г. зн. наша моладзь. Не ведаю, дзе гэты аракул прасвяціўся, але паведамляю яму наступнае: 92 працэнты ад патрэбнай сумы далі аддзел культуры і Любішчыцкі сельскі Савет. Ільвіная доля, згадзіцеся. Не хачу, каб мяне няправільна зразумелі, я, зразумела, удзячны ўсім за кожную капейку, але трэба бачыць рэчы такімі, якімі яны ёсць.

**— А ці можа моладзь у прынцыпе забяспечыць свой клуб самым неабходным! Дарэчы, колькі каштуе такая неабходная сёння апаратура!**

— Каштуе шмат. Моладзь такіх грошай не мае. Я ж не з неба зваліўся, бачу якое сённяшняе жыццё. Тут на марожанае не заўжды хапае грошай, а самая прасценькая апаратура каштуе каля 400 у. а. Хіба, калі б моладзь усяго раёна скідвалася, то можна было б сабраць столькі у. а. Трэба ж, каб гучанне было якаснае, гук — моцны, каб музыка чулася па ўсёй зале, а не ў адным куточку.

**— А што, дарэчы, слухае сённяшняя моладзь! На якія рытмы і гукі настроіцца чалавеку, які даўно не быў на дыскатэцы! Якія групы, выканаўцы цікавяць моладзь, пад што танцуюць!**

— Групы "Наташа", "Турбамодерн", "Авария", "Начны патруль", "Малалетка", "Лілу", "Аладзін", "Prodici"... карыстаюцца папулярнасцю...

**— Вось табе і так... Нікога не ведаю. Ці то ад жыцця адстаў!.. А Кіркораў, Доліна, В. Лявонцеў!**

— Іх сёння не слухаюць. З аднаго боку, я і сам цяжка "врубаюсь" у сённяшнія тэксты, кшталту "Убили негра, убили суки". А з другога боку, якая мне розніца. Я павінен падрыхтаваць рэпертуар, які цікавіць моладзь. Я ж не магу ім філасофскія лекцыі чытаць, ды і слухаць на гэтую тэму мяне ніхто не будзе. Такі час і такая цяпер моладзь.

Падрыхтаваны ў мяне рэпертуар і для тых, хто крышачку старэйшы, каго цікавяць іншыя рытмы і гукі, хто радзей ходзіць на танцы. Кожнаму рады, прыходзь і ты.

**— Дзякуй. Скажы, на танцах чыста мясцовая моладзь, ці ходзяць і з суседніх вёсак! Колькі каштуе ўваход!**

— Цана, лічу, сімвалічная — 25 рублёў. А моладзь ходзіць і мясцовая, прыязджаюць на аўтамабілях і матацыклах з Яглевіч, Галенчыц, Любішчыц, нават Івацэвіч. Хацеў бы папярэдзіць, папрасіць маладых людзей аб тым, каб былі больш асцярожнымі за рулём і паважлівымі да жыхароў пасёлка, хто жыве побач з клубам.

**— Дзякуй, Аляксандр. Поспехаў і ўдачы.**

*Гутарыў Аляксандр ГОРБАЧ.*

● ДАРОСЛЫМ АБ ДЗЕЦЯХ

# Аб пачуцці локця, якім дзяцей... б'юць пад дых

***А ці ўсё вы ведаеце пра сваё дзіця, шаноўны чытач?***

***Канешне-канешне, ён на вашых вачах раніцай прачынаецца, а вечарам кладзецца спаць. Пад вашым кіраўніцтвам ён ідзе ў школу, гуляе дзесьці з сябрамі вечарам. Таму яго жыццё, учынкі, нават яго светапогляд здаюцца вам блізкімі і зразумелымі, нібы асабістыя.***

***Але тады з якога ліку вырастаюць юныя наркаманы, таксікаманы, злодзеі, бандыты? Толькі не спяшайце клясціся, бажыцца, што вы, маўляў, цудоўна ведаеце сваё дзіця і што хто-хто, а толькі не ён, наш мілы, родны, крывінка наша...***

***У гісторыі, якую расказала адна з жыхарак г. Бярозы, фігуруе таксама чыйсьці мілы, родны, крывіначка чыясьці...***

Два хлопчыкі дзевяці год, якія даўно не бачыліся і, нарэшце, сустрэліся, накіраваліся на спартыўную пляцоўку адной з сярэдніх школ райцэнтра, дзе падцягваліся на турніку, адціскаліся на брусах.

З'яўленне сяброў не давала спакою 14-гадоваму бэйбусу, які да гэтага крышку пагуляў у футбол, а пасля рашыў заняцца чымсьці больш канкрэтным і вясёлым. А што, ён дурны бегаць за мячом, прытрымлівацца нейкіх правіл гульні, калі можна і без правіл жыць, дабіваючыся павагі і аўтарытэту?

Таму ён замяніў гэтых хлопчыкаў на пустую будоўлю, дзе ён з гэтымі хлопцамі застаўся сам насам, без лішніх вачэй. Гэты бэйбус (іншага слова для яго, прабачце, я не знайшоў), што быў на галаву вышэйшы за дзевяцігадовых хлапчукоў, развёў па розных вуглах і пачаў іх проста так збіваць. Ён ведаў, што любая іх спроба даць здачы немагчыма: яны значна маладзейшыя, ён — значна большы, дужэйшы.

Таму біў спакойна, не спяшаючыся, з перапынкамі. Біў у твар, па спіне (па нырках), біў па нагах, у грудзі, біў нагамі і рукамі. Пасля, задаволены тым, які ён, аднак, круты, стаў патрабаваць, каб хлопчыкі па чарзе... Скажам так, абслужылі яго ў сэксуальным плане. Яны адмовіліся — і атрымалі новую порцыю ўдараў па нырках, у грудзі...

Калі адзін з гэтых хлопчыкаў вярнуўся ўвечары дамоў, маці схапілася за галаву.

Як аўтара гэтых радкоў, мяне менш за ўсё цікавіць тое, ці варта называць у газеце імёны "герояў" гэтага выпадку, ці знайшла маці праўду. Хачу засяродзіць увагу на іншым: выпадак тыповы, радавы, нават нецікавы, так здараецца паўсюдна, бацькі і настаўнікі бачаць толькі дзесятую долю ўнутраных разборак гэтых "мужчын". Усюды: у садку, у школе, у арміі — існуе дзяленне на мацнейшых і слабейшых, нахабных і ціхмяных, злых і маладушных. Было раней (што б ні спявалі ідэалагічныя "салаўі", пракліначы амерыканскія фільмы), ёсць і зараз.

А прычына, на мой погляд, вядомая: нашы дзеці, нашы хлопцы з малаком маці ўсмакталі правілы і прынцыпы, без якіх у жыцці прападзеш: будзь нахабным, нахрапістым, злым, бі другіх, бо цябе будуць біць, будзь крыклівым, гарластым — увогуле далёка пойдзеш, умей ілгаць не чырванеючы, выкручвацца з любых сітуацый, заўсёды станавіся на бок таго, у каго цяжэйшы кулак, а не таго, хто праў ду кажа, умей распазнаваць "саюзнікаў", хто твайго поля ягадка, і тых, хто слабейшы: трэба ж на іх нарошчваць свой агульны тэт і ўдар. Калі хлопец у бацькоў праўдзівы, шчыры, прастадушны, сарамлівы, то гэта сёння проста страшыць бацькоў. "Як жа ён з такім характарам у армію пойдзе?" — са страхам думаюць яны. Іх страх апраўданы.

ХХХ

Днямі ў магазіне паслухаў размову дзвюх жанчын.

— Гэта добра, што ён у цябе такі бойкі, — гаварыла адна, маючы на ўвазе сына другой, — вельмі добра. Даб'ецца ўсяго, не будзе бы тое цялё. І мой старэйшы мяне радуе: ніколі нікому не змаўчыць, любому дасць пад дых, спрачаецца нават з настаўніцай, сварыцца, перабівае, дабіваецца патрэбнай адзнакі, у сталовай вось нядаўна (радасна ўсміхаецца) запатрабаваў ад повара, каб памянялі катлету. І пакралі лепшую... Не маўчыць, любому, калі трэба, урэжа. Гэты не прападзе.

А вось малодшы Андруша... Гэтаму паставілі тройку па рускай за чвэрць, ён і прыплёўся дадому галаву апусціўшы. Цьфу, нібы цялё нейкае...

Няцяжка ўявіць, чаму гэтая мама вучыць дома сваіх сыноў. Праўда, потым яны, вымуштраваныя, нібы тыя сабакі, кагосьці стануць трасці за грудзі, магчыма сяброўку гэтай жанчыны, якая таксама цешылася нахрапістасцю хлопчыкаў.

Але ўжо потым, пацярпеўшы, яны ўжо будуць гаварыць, што не ведаюць, маўляў, у каго пайшлі гэтыя дзеці, што яны ў час сваёй маладосці былі лепшыя... Хто іх гэтаму навучыў, маўляў?

А на самой справе — хто?

*Андрэй АМЯЛЮСІК.*
*г. Бяроза.*



● АДПАЧЫНАК

# МАРУ АБ БОЧЦЫ КВАСУ НА ПЛЯЖЫ

Ні хмурынкі, ні дажджынкі. Ад спякоты ажно млосна. Мясцтачковыя пляжы перапоўнены. Асабліва ў выхадныя дні.

Вада — гэта добра. Але чалавечы арганізм патрабуе таксама вады. Зразумела, у выглядзе прахаладжальных напояў: газіроўкі, квасу. А ўлетку іх у правінцыі, тым болей у зонах масавага адпачынку ўвогуле няма. Нехта ўсміхнецца — захацеў квасу на пляжы! Смех смехам, а ў цывілізаваным грамадстве існуюць перасоўныя шапікі, якія хутка рэагуюць на попыт грамадзян. Вёрткія прадпрымальнікі не ўпускаюць момант папоўніць свой кашалёк. Гэта прадпрымальнікі. А ў нас жа гандаль дзяржаўны. Прадпрымальнікам быць цяжка, а падчас і небяспечна. Уласных фірм па вырабу танізіруючых напіткаў не маем, таму не дзіва, калі бачым пустую бочку ад квасу ў спякотную нядзелю і прыхопліваем з сабою на пляж тое, што маем пад рукой. Нават звычайная калодзежная вада іншы раз ідзе на вагу золата.



Някепска было б абсталяваць на пляжах пункты пракату спартыўнага інвентару. Некалькі гадзінаў ляжаць пад сонцам надакучыць, а вось размяцца, пагуляць у валейбол ці бадмінтон ніхто не адмовіцца б. Вельмі дарэчы быў бы тут спартыўны арганізатар, які з адпачываючымі заняўся б фізкультурай, умацаваннем здароўя. Але і гэта ўсё з вобласці мараў... Эх, лета!




*Аляксей ГАНЧУК.*
*Фота аўтара.*

